Published by
BYELORUSSIAN-AMERICAN
ASSOCIATION, Inc., U. S. A.
and BYELORUSSIAN
CANADIAN ALLIANCE

# Беларус

ЦАНА — PRICE 25 ¢

Address:
BIELARUS
401 ATLANTIC Ave.
BROOKLYN 17,
NEW YORK, N. Y.

ЧАСАПІС БЕЛАРУСАЎ ПАЎНОЧНАЕ АМЭРЫКІ BIELARUS — BYELORUSSIAN NEWSPAPER OF NORTH AMERICA

Год XV. №. 83. Люты 1964 г. NEW YORK — TORONTO February 1964 Vol. XV. №. 83

## АМЭРЫКА Ў КОСМАСЕ

У студзені ЗША мела два вялікія дасягненьні ў галіне касьмічнае тэхнікі: 29 студзеня быў праведзены ўдалы пробны выстрал наймагутнейшае ракеты сьвету Сатурн, а назаўтрае, 30 студзеня, быў пушчаны на месяц касьмічны кораб Рэйнджэр, азброены батарэяй шасьці тэлевізыйных камэраў для фатаграфаваньня паверхні месяца.

### ПРОБНЫ ВЫСТРАЛ РАКЕТЫ САТУРН

Новазбудаваная ракета Сатурн закінула ў арбіту зямлі цяжар вагі 20,000 фунтаў. Калі ўлічаць і пустыя бітоны ад зужытага паліва, дык у арбіту кінуты быў цяжар агульнае вагі 37,700 фунтаў. Гэты касьмічны ладунак круціцца наўкола зямлі ў адлегласьці ад 164 да 471 міляў. Найбольшы цяжар, які да гэтай пары здолелі запусьціць у арбіту савецкія ракеты, быў 14,293 фунты.

Як паліва ў ракеце Сатурн скарыстаны вадарод у вадкім стане, які дае на траціну больш энэргіі за ўжываныя дагэтуль іншыя палівы. СССР, як дагэтуль, ня мае ракетаў на вадародным паліве.

Удалая проба ракеты Сатурн паказала, што наймагутнейшыя касьмічнага засягу ракеты цяпер мае Амэрыка. Пры помачы ракеты Сатурн плянуецца першы палёт на месяц каля 1970 году.

### КАСЬМІЧНЫ КОРАБ РЭЙНДЖЭР

825-фунтовы касьмічны кораб Рэйнджэр быў пушчаны, каб за 66 гадзінаў даляцець да месяца ды перад спадам і зьнішчэньнем зрабіць 3000 фатаграфічных здымкаў паверхні месяца ды пераслаць іх на зямлю. Гэтыя здымкі мелі дакладней выясьніць выгляд і структуру месяцавай паверхні, што пазволіла-б дапасаваць канструкцыю касьмічнага корабу, на якім мае адбыцца палёт на месяц.

На другі дзень лёту Рэйнджэра была праведзеная карэктура лёту, і касьмічны кораб быў ідэальна нацэлены для спаду ў намечаным абшары сярод Мора Супакою. На вялікі жаль, дзеля нейкае тэхнічнае перашкоды тэлевізыйная апаратура не разагрэлася на час, і кораб спаў на месяц не пераслаўшы чаканых здымкаў. Кіраўніцтва праекту паведамляе, што ўжо за месяц адбудзецца чародная падобная спроба сфатаграфаваньня паверхні месяца з заплянаваных яшчэ трох.

## ГІСТАРЫЧНАЯ СУСТРЭЧА

4-6 студзеня папа Паўла VI у суправаджэньні кардыналаў і япіскапаў самалётам накіраваўся ў Сьвятую Зямлю на багамольнае падарожжа. Як ні дзіўна, гэта першы ў гісторыі выпадак, калі галава Каталіцкае Царквы адбывае на багамольле ў сьвятыя для хрысьціянаў мясціны тае зямлі, па якой калісьці ступаў Хрыстос. Спатыкалі й віталі Папу ў Ярданіі кароль Гусэйн, у Ізраэлі прэзыдэнт Шазар. Папа наведаў Ерузалім, Бэтлеем, Назарэт ды іншыя мясьціны, зьвязаныя з жыцьцём Хрыста. З Назарэту Папа выслаў 224 звароты ў справе міру на зямлі да кіраўнікоў усіх дзяржаваў сьвету, усіх цэркваў, ды важнейшых арганізацыяў і ўстановаў.

Гэтым самым часам на багамольле й дамоўленую сустрэчу з Папам, у вакружэньні дванаццаці мітрапалітаў і япіскапаў, прыбыў у Сьвятую Зямлю канстантынопальскі Ўсяленскі Патрыярх Атэнагорас I. У Ерузаліме 5 студзеня адбылося першае ад звыш 500 год спатканьне найвышэйшых дастойнікаў двух хрысьціянскіх цэркваў. Пры спатканьні Папа й Патрыярх абняліся ды склалі сымбалічны пацалунак „міру".

6 студзеня папа Паўла VI рэвізытаваў Ўсяленскага Патрыярха Атэнагораса I у рэзыдэнцыі Праваслаўнага Ерузалімскага Патрыярха на Аліўнай Гары. Супольна была прачытаная Гасподняя Малітва й разьдзел Эвангельля із словамі „Хай усе будуць адно" (Іоан 17, 21). Папа чытаў малітвы палацінску, Патрыярх пагрэцку. Таго-ж самага дня Папа вярнуўся самалётам у Рым, дзе яго чакалі й з энтузыязмам віталі колькісоттысячныя масы народу.

За ходам першае ад вякоў сустрэчы найвышэйшых дастойнікаў двух цэркваў зь вялікаю ўвагай сачылі ня толькі хрысьціянскія, але і ўсе іншыя народы сьвету. Усяленскі Патрыярх Атэнагорас I выказаўся, што спатканьне гэтае вельмі важнае тым, што яно „расчыняе шырока дзьверы" для далейшых сустрэчаў ды гутарак „як роўны з роўным" прадстаўнікоў абедзьвюх цэркваў у справе важнага й канечнага для змаганьня „зь бязбожжам і тыраніяй" хрысьціянскага пагадненьня. Патрыярх гаварыў: „Лёд праламаны. Хутка пачнецца новая эра ў гісторыі хрысьціянства. Зарысуюцца новыя контуры й формы ды адкрыюцца новыя шляхі для ўплыву хрысьціянства на справу сусьветнага міру". Папа Паўла VI выказаў пагляд, што для зьбліжэньня й пагадненьня ўсіх хрысьціянаў сьвету „шлях доўгі і ўсланы перашкодамі".

Толькі будучыня падсумуе некалі й ацэніць у паўніні гістарычнае значэньне сустрэчы двух высокіх царкоўных дастойнікаў. Сяньня-ж можна толькі сказаць, што пасьля яе стае больш праўдападобным, што з часам можа дайсьці да спатканьня й дыскусіяў прадстаўнікоў цэркваў Праваслаўнае й Каталіцкае ў духу пастановаў леташняе канфэрэнцыі праваслаўных цэркваў на Родасе, а магчыма навет і сустрэчаў і гутарак прадстаўнікоў усіх хрысьціянскіх цэркваў, улучна з пратэстанцкімі, як пасуліў пазьней Патрыярх Атэнагорас I.

Адцеміць трэба аднячасна, што супроць сустрэчы Ўсяленскага Патрыярха з Папам і супольнае іх малітвы ўвесь час выступала Грэцкая Праваслаўная Царква, якая адкідае наагул патрэбу й магчымасьць якіх небудзь гутарак з Царквой Каталіцкай, хоць грэцкая прэса да спатканьня аднеслася прыхільна. Патрыярх Маскоўскі выдаў пры нагодзе сустрэчы асьветчаньне, у якім вітае спатканьне высокіх царкоўных дастойнікаў, але ўважае, што значэньне гэтае сустрэчы чыста багамольнае. З гэтага вынікае, што ў справе нейкіх магчымых перамоваў ці дыскусіяў між цэрквамі Маскоўскі Патрыярхат пакідае сабе вольную руку, і, пэўне-ж, сваё становішча будзе заўсёды ўзалежняць ня столькі ад царкоўна-рэлігійных меркаваньняў, колькі палітычна-прапагандовых інтарэсаў савецкае Масквы.

### СТАТЫСТЫКА ВЕРАВЫЗНАНЬНЯЎ

Рэлігійныя пытаньні апошнім часам сталі прадметам зацікаўленьня ўсяго сьвету. Тут пададзеныя лікі прыналежнасьці жыхарства сьвету да важнейшых веравызнаньняў на аснове інфармацыі Брытанскае Энцыкляпэдыі, а паводля стану на 1962 год.

| | |
|---|---|
| Хрысьціян усіх | 916.370,000 |
| з чаго Каталікоў | 558.221,000 |
| Праваслаўных | 138.513,000 |
| Пратэстантаў | 219.636,000 |
| Жыдоў | 12.867,000 |
| Магамэтанаў | 437.278,000 |
| Шынтаістых | 59.788,000 |
| Таоістых | 50.062,000 |
| Канфуцыянаў | 334.549,000 |
| Будыстых | 155.265,000 |
| Гінду | 340.844,000 |

Лік праваслаўных усяго сьвету самі праваслаўныя царкоўныя кругі ацэньваюць на куды больш, як падае Брытанская Энцыкляпэдыя, бо ад 187 да 280 мільёнаў.

## БАЛЬШАВІЦКАЕ НЕПЕРАДРАШЭНСТВА

Менская „Зьвязда" за 7-ае сьнежня перадрукавала артыкул з маскоўскае „Праўды" — „За адзінства й згуртаванасьць міжнароднага камуністычнага руху", — які прысьвечаны трыгодзьдзю „Маскоўскае нарады прадстаўнікоў камуністычных і рабочых партыяў", і які, на загад Масквы, перадрукаваны ў іншых рэспубліканскіх і краёвых газэтах. Артыкул напісаны з прычыны маскоўска-кітайскае спрэчкі; у ім—намаганьне давесьці, што прынятая на тэй нарадзе „Заява", як і „Дэкляpацыя" 1957 году ўпоўні сябе „апраўдалі".

Гаворыцца там аб: „пабудове грамадзтва, свабоднага ад... усіх формаў прыгнечаньня й эксплятацыі... якое ўсталёўвае на зямлі Мір, Працу, Свабоду. Роўнасьць, Брацтва й Шчасьце". Калі да гэтага дадаць яшчэ „пастановы" 22-га Зьезду КПСС, дзе гаворыцца, што праз 20 год у СССР „кажнаму будзе паводля патрэбы", то горшай гіроніі й кпін зь людзкое долі выказаць нельга.

„Свабоду, Роўнасьць і Шчасьце" бальшавікі за 46 год выявілі дастаткова, выявілі генасыдным зьнішчэньнем цэлых народаў і падганяньнем пад адну маскоўскую маглёўку ўсіх іншых старым спрактыкованым маскоўскім способам „подавлять", як раней „крамолу", так цяпер „ворагаў народу". Даць-жа кажнаму паводля патрэбы бальшавіцка-маскоўскаю меркаю ня цяжка. Яно даецца й цяпер: каму Калыма, каму Казахстан, каму Варкута, а каму дома катарга. Пэўне-ж, нейкі Мікіта выдзяліць і яду і акрыцьцё для цела, як яно ёсьць і цяпер і як яно йнакш быць ня можа пры бальшавіцкім рэжыме.

Вось „суіснаваньнем" — гэтым дурманом, пушчаным у вочы наіўным людзям, бальшавікі запраўды могуць хваліцца, і Мао Цэ Тунгу цяжка ім адмовіць рацыю. Вось што кажуць: „Лінія на мірнае суіснаваньне — гэта лінія на выключэньне ўзброеных сяродкаў барацьбы паміж дзяржавамі з розным сацыяльна-эканамічным ладам, за ўсталяваньне паміж імі прынцыпаў суверэнітэту, раўнапраўя й неўмяшаньня ў нутраныя справы".

Гэта — для „капіталістых", а для сябе:

„...КПСС лічыць сваім інтэрнацыянальным абавязкам аказваць усямерную палітычную й эканамічную падтрымку, а калі трэба, то й дапамогай зброяй нацыянальна-вызваленчай барацьбе народаў".

Далей артыкул зусім не саромеючыся прыпамінае, што бальшавікі ўмачылі ў крыві свае рукі ў ААР, Альжыры, Інданэзіі, Іемэне, Паўднёвым Ўетнаме, Паўднёвай Карэі, і цяпер сунуць пальцы ў Анголу, Мазамбік, Паўднёва-Афрыканскую Рэспубліку ды ў гаспадарствы Лацінскае Амэрыкі. „Бясспрэчным фактам сучаснасьці ёсьць, што імпэрыялізм (гэта значыць вольны сьвет) апынуўся ў становішчы глухой абароны", а бальшавікі й далей „разгортваюць наступленьне па ўсім фронце..."

Што сказаць на гэта? Хіба толькі тое, што горка спасьцерагаць, як некаторыя заходнія палітыкі наіўна расцэньваюць гэтую бальшавіцкую дзейнасьць і затуманьваюць галовы „суіснаваньнем".

Нарэшце артыкул падыходзіць да калючак, што колюць маскоўскім бальшавіком пад бакі, і ад іх давядзіцца, пакульшто, чухацца. Няпрыемны Маскве факт, што Кітай — ня Прыбалтыка, ня Польшча, ня Румынія, не гаворачы ўжо пра тыя краіны, якія былі „вызваленыя" ўжо блізу два стагодзьдзі й жывуць пад „брацкаю апекаю". Падаць „брацкую руку" Кітаю будзе цяжкэй. У яго свая даўгая.

„Вядома, разнагалосьсі ў радох камуністычнага руху маюць сур'езны характар, адкрытая палеміка зайшла занадта далёка і ў многіх выпадках перакрочыла нормы адносін паміж брацкімі партыямі."

Так, маскоўскія нормы, што партыя таксама павінна быць „адзіная недзялімая", перакрочаныя. Вось тут найбольшая трывога й клопат. І дзеля гэтага цэлы „трактат" на паўтары вялікія бачыны намагаецца давесьці, што толькі маскоўскія бальшавікі выкіруюць усіх іншых сваіх падуладных „братоў" да шчасьця.

„Для ўсіх камуністычных партыяў абавязковае няўхільнае захаваньне палажэньняў сфармуляваных у Дэклярацыі й Заяве". Гэтыя „палажэньні" забавязваюць: „Папершае, салідарна захоўваць разам распрацаваныя брацкімі партыямі на сваіх нарадах (гэта ў Маскве — Рэд.) ацэнкі й вывады... Падругое, рашуча абараняць адзінства міжнароднага камуністычнага руху на аснове прынцыпу марксызму-ленінізму... Патрэцяе, няўхільна захоўваць ленінскія нормы партыйнага жыцьця на аснове прынцыпу дэмакратычнага цэнтралізму, берагчы, як зрэнку вока, адзінства партыі... Пачацьвёртае, беззапаветна (недарэчны гукапрыпадобнены пераклад расейскага слова „беззаветно") быць вернымі маркса-ленінскаму вучэньню" і г. д.

Маркс і дэмакратызм тут, зразумела, няпрычым — прыцягнутыя для прапаганды. А Ленін так: ён ўратаваў Расейскую імпэрыю й запавет сваім спадкаемцам пакінуў. Нельга адмовіць бальшавіком рацыю ў тым, што, апіраючыся на Маскву, бальшавізм набірае сілы. Тут падведзеная досыць моцная база — расейскі імпэрыялізм. Самі Расейцы ў эміграцыйнай прэсе часамі вядуць спрэчку: ці магчыма спадзявацца на зьнішчэньне бальшавізму нутранымі сіламі? Як? Калі-б толькі паўстала некая складовая частка СССР, усе маскоўцы, пачынаючы ад бальшавікоў й канчаючы манархістамі, згодна й заядла кінуцца душыць паўстаньне, баючыся вызваленьня гэтае часткі ад Расеі. Гэтая-ж небясьпека „погубить Россию" не дазволіць Расейцам паўстаць супроць бальшавікоў. Думка супрацьбальшавіцкага паўстаньня магла-б крышталізавацца ў Расейцаў тады, калі-б Расея выйшла з вайны абцятая ў сваіх межах. А пакуль яна разьдзімаецца, дарэмная аб гэтым гутарка.

Дык маскоўскія бальшавікі, як і эміграцыйныя Расейцы-антыкамуністыя вядуць тое самае „непрадрашэнства". Масква кажа „братнім партыям": „Вы павінны рабіць тое, што Масква кажа, і рабіць так, як Масква пакажа. А як прыйдзе да абдорваньня „паводля патрэбы" — тады мы вам скажам, што вам трэба".

Кітайцы, як ведама, не пайшлі па гэтай „непрадрашэнскай" лініі. Амэрыканскія палітыкі пачалі касавурыцца на Кітай горш як на СССР. Дарма. Абое — рабое, толькі СССР больш небясьпечнае.

### АД РЭДАКЦЫІ

У папярэднім нумары „Беларуса" паведамлялася, што гэты нумар, як і ўсе наступныя нумары, будзе высылацца адно тым, хто аплаціць гадавую падпіску ў суме 4 даляры, а высылка дармовая будзе спыненая. Але з увагі на тое, што масава пачала напліваць падпіска ў вадказ на наш заклік, мы гэты нумар яшчэ рассылаем усім тым, каму высылаліся й папярэднія нумары, у надзеі, што ў міжчасе надыйдзе падпіска й ад тых нашых чытачоў, што яшчэ яе не аплацілі.

**Выдавецтва „Беларуса"**

## "ГОЛАС АМЭРЫКІ" АБМЯЖОЎВАЮЦЬ

Ад лютага ЗША спыніла перадачы „Голасу Амэрыкі" для Ўсходняе Нямеччыны праз сваю наймацнейшую бэрлінскую доўгахвалёвую станцыю РІАС. Заходнянямецкая прэса падае, што спыненьне наступіла ў выніку вуснае ўгоды яшчэ мінулага лета між прадстаўнікамі ЗША й СССР. Амэрыка згадзілася спыніць перадачы на доўгіх хвалях праз станцыю сілы 1000 кіляватаў у Мюнхене пад умовай, што Масква перастане глушыць перадачы „Голасу Амэрыкі". Перадачаў „Голасу" Масква ня глушыць ужо ад 19 чэрвеня леташняга году.

ЗША спыніла бэрлінскія доўгахвалёвыя перадачы „Голасу" не зважаючы на вострыя пратэсты заходнянямецкага ўраду, які гэты крок лічыць за капітуляцыю пад націскам Масквы. Перадачы можна было чуць ува ўсей Эўропе, заглушыць іх было блізу немагчыма. Цяпер амэрыканскія перадачы для Ўсходняе Нямеччыны вядуцца толькі праз шмат слабейшыя сярэднія й кароткахвалёвыя станцыі.

Сакратар'ят Замежных Справаў у Вашынгтоне запярэчвае, што спыненьне дзейнасьці наймацнейшае станцыі РІАС праведзенае на дамаганьне Масквы, ды цьвердзіць, што зроблена гэта толькі дзеля таго, што ў выніку спыненьня глушэньняў няма патрэбы ў гэтак моцнай станцыі. Станцыя пры тым не закрываецца й дзейнасьць яе можа быць адноўленая ў кажны мамэнт, калі-б Масква пачала зноў глушыць перадачы „Голасу Амэрыкі".

## АМЭРЫКАНСКІ КАМІТЭТ МЯНЯЕ НАЗОЎ

Ведамы Амэрыканскі Камітэт Вызваленьня, які за 10 год свайго йснаваньня мяняў назоў ужо ня раз, апавесьціў пра сваё новае пераназваньне на „Камітэт Радыя „Свабода". У заяве старшыні камітэту Г. Г. Сарджэнта чародная зьмена назову матывуецца тым, што праца Камітэту апошнім часам канцэнтравалася галоўна пры радыё „Свабода" й што дзеля гэтага ўсе „ўсё больш і больш утоесамляюць" Амэрыканскі Камітэт зь дзейнасьцяй гэтага радыя. Старшыня Г. Г. Сарджэнт пры гэтым асьветчыў, што „зьмена назову ня значыць аніякага зьначаньня шырокіх мэтаў Камітэту, і ён будзе й надалей даваць сваё падтрыманьне іншай дзейнасьці".

Столькі афіцыйнага асьветчаньня. Фактам ёсьць, што выпушчэньне слова „вызваленьне" выразна прытушае палітычную вастрыню ў назове, а цеснае зьвязаньне гэтага назову з адным толькі радыям, яўна паказвае на тэндэнцыю абмяжоўваньня ягонае й так зусім ня „шырокае" дзейнасьці, якая апошнімі гадамі ўвесь час звужалася. Для прыкладу, у галіне дзейнасьці больш сталае, а не пераходнае вартасьці, як радыя — у дасьледніцка-навуковай працы, — дзейнасьць і публікацыі Інстытуту Вывучэньня СССР у дзялянцы, прысьвечанай долі нерасейскіх народаў СССР, апошнімі гадамі зьведзеныя блізу да нуля.

Дык, незважаючы на афіцыйныя матывы зьмены назову ды заруку пра захаваньне „шырокіх мэтаў", апошняе пераназваньне, гэта яўны адбітак дапасоўваньня да палітыкі „суіснаваньня" з расейска-бальшавіцкім імпэрыялізмам амэрыканскага Дэпартамэнту Замежных Справаў. Прычыны гэтага кроку тыя самыя, што й спыненьне дзейнасьці бэрлінскае амэрыканскае радыястанцыі РІАС.

# ГУТАРКА З АЎТАРАМ „ЗМАГАРНЫХ ДАРОГ"

**Рэдакцыя „Беларуса" папрасіла пісьменьніка К. Акулу расказаць пра сваю творчую працу, пра мінулыя ўдачы й пра пляны на будучыню. Гэтта адказы сп. Акулы на нашыя пытаньні.**

**Пытаньне:** Два гады таму выйшла Вашая вялікая кніга „Змагарныя Дарогі". Якую Вы ставілі мэту гэтаму твору?

**Адказ:** Мэтай было паказаньне ўдзелу беларускіх збройных адзінак у вапошняй вайне, долі й нядолі беларускага народу, ды апісаньне гістарычных фактаў, зьвязаных з тымі, што бралі ці бяруць і сяньня ўдзел у змаганьні за вызваленьне Беларусі.

**П.:** Як Вы зьбіралі патрэбны матар'ял і працавалі над творам?

**А.:** Найбольш інфармацыяў далі мне жывыя сьветкі падзеяў, апісаных у „Змагарных Дарогах". Гаварыў зь імі або асабіста, або карэспандаваў. Захаваліся й свае запісы з часу вайны, што насіў у жаўнерскай кішэні ад часу, калі пакінуў Менск, аж да прыезду ў Ангельшчыну.

Праца над „Змагарнымі Дарогамі" была цяжкой, часамі навет непасільнай. Трывала тры гады. Пісаў бальшыню, як кажуць, на калене. У гэты час у сям'і маей быў вялікі крызыс. Жонка тры месяцы была ў шпіталі. Двое малых дзетак былі ў людзях, а найстарэйшы хлопец дома. Я працаваў удзень на хвабрыцы, мусіў даглядаць хлапца, што наведваў школу, хату, наведваць жонку ў шпіталі й іншых дзяцей, а пасьля яшчэ пісаць. Як сяньня ні дзіва самому, навет у гэны цяжкі час я рэгулярна кажны дзень пісаў гадзіну ці дзьве.

**П.:** Якая рэакцыя на „Змагарныя Дарогі" з боку чытачоў? Ці ўважаеце, што праца гэтая дасягнула сваю мэту?

**А.:** У маім прыватным архіве ёсьць мноства лістоў ад чытачоў „З.Д." з вольнай беларускай эміграцыі. Там-жа побач ляжаць і бальшавіцкія газэты, што, асабліва апошнім часам, прысьвяцілі шмат увагі гэтаму твору й аўтару. Дык буду гаварыць аб рэакцыі дваякай.

Беларусы на эміграцыі ў бальшыні ацанілі твор, як добры. Некаторыя адклікаліся аб ім у супэрлятывах. Іншыя далі вельмі пажаданую крытыку. Гэтым хачу гэтта асабліва падзякаваць. Добразычлівая крытыка прынесла мне больш карысьці, чымся галаслоўныя пахвалы іншых. Чытачамі ўнесена было шмат паправак, перадусім што да апісваных падзеяў і людзей гістарычнага характару. У выпадку перавыданьня твору, пастараюся іх выкарыстаць. Твор разыйшоўся добра, хоць і не аплаціў коштаў друку.

Як мне вядома, да гэтага часу бальшавікі ўжо разы чатыры пісалі пра „З.Д." й аўтара ў „Голасе Радзімы", адзін раз у расейскім выданьні „Голос Родины" і ў мясцовай таронцкай камуністычнай газэтцы „Вестник". Чаму-ж яны прысьвячаюць „Змагарным Дарогам" так шмат увагі? Мяркую таму, бо гэтая праца, абапёртая на праўдзівых фактах, выбівае з рук бальшавіцкіх партыйных пісакаў гэтак званыя козыры, калі яны насьвятляюць беларускі вызвольны рух і нашую вольную эміграцыю. Як вядома, бальшыню нас, а перадусім беларускіх вайскоўцаў, яны падвялі пад ярлык „фашыстых, забойцаў, зраднікаў". Ня толькі ў афіцыйнай прапаганьдзе, але й у бэсэсэраўскім пісьменстве прысьвечана гэтаму выкрыўленьню аблічча патрыётаў Беларусі шмат увагі. У „Змагарных Дарогах" напісана вельмі скупа пра бальшавікоў і іхных партызанаў. Затое шырока паказана імкненьне адданых сыноў і дачок Беларусі да самавызначэньня; адмаўленьне супрацоўніцтва з усімі акупантамі нашай паняволенай бацькаўшчыны; парасткі беларускага вызвольнага руху. Вось чаму бальшавіком гэтая кніга не да смаку, і яны войстра на яе зарэагавалі. Бяручы на ўвагу такую рэакцыю на „З.Д." з двух бакоў, уважаю, што праца гэтая дасягнула сваю мэту.

**П.:** Над чым працуеце цяпер?

**П.:** У мінулым годзе пачаў раман. Да цяперашняга часу напісаў больш сотні бачынаў. Называцца будзе „Гараватка".

**П.:** Ці маглі-б Вы сказаць пра мэты „Гараваткі" й працэс працы над ёй?

**А.:** „Гараватка" заплянаваная на тры кнігі, ці томы, усяго ля тысячы бачынаў. Чаму тры? Таму, што



Канстантын Акула

праз сюжэт і герояў хачу паказаць Беларусь пад трыма акупантамі: Палякамі, балышавікамі й Немцамі. Асноўныя мэты, што хачу дасягнуць, таксама тры: мастацкімі сяродкамі паказаць эксплёатацыю нашага народу чужынцамі (тут-жа й зьверскасьць гэтых чужынцаў); паказаць, што камунізм і фашызм — гэта хваробы, накінутыя нашаму народу сілай чужынцамі (фашызму, дарэчы, у нас амаль ня было й няма); можа найгалаўнейшае за ўсё — паказаць праз гэты бурны пэрыяд, як Беларусы знаходзілі дарогу да той вялікай праўды, што можам лічыць толькі й заўсёды на свае собскія сілы, што няма ў нас прыяцеляў ані з усходу, ані з захаду.

**П.:** Якія маеце пляны пасьля „Гараваткі"?

**А.:** Так далёка забягаць наперад яшчэ зарана, няма патрэбы. Зрэалізаваньне „Гараваткі" займе найменш пяць гадоў. Сёлета зімой (летам пісаць зусім няма як) маю намер скончыць першую кнігу. Не забывайцеся, што ў мяне яшчэ немалая журналістычная й грамадзкая нагрузка. Калі Бог дапаможа пасьпяхова напісаць і выдаць „Гараватку", хацелася-б больш увагі прысьвяціць сатыры, у якім-бы то ні было жанры. Як вядома, тыраны бясьсільныя супроць добрай сатыры. Вось чаму хочацца аддаць ёй больш часу.

**П.:** Апрача недахопу часу, якія ў Вас іншыя перашкоды ў творчай працы?

**А.:** Працуючы над „Гараваткай", галоўныя праблемы ў мяне — мова й краіна. Тут, на эміграцыі, не пачуеш крынічна жывой беларускай мовы, што патрэбна пісьменьніку для адлюстраваньня, прыкладам, шматхварбнасьці яе ці якога дыялекту. Мова эмігрантаў — гэта пераважна макароншчына. Там, дома, яшчэ захаваўся свой корань, але ўжо шмат чужых наслаеньняў, ды ня толькі ў слоўніку, але й у стылі. Стараюся, каб мова „Гараваткі" была багацейшая, чымся „Змагарных Дарог". Улічаючы ізаляванасьць ад народу на бацькаўшчыне ды недахоп добрых беларускіх слоўнікаў, праца над мовай вельмі цяжкая.

Уся дзейнасьць „Гараваткі" разгортваецца ў Беларусі. Я-ж пакінуў бацькаўшчыну юнаком, значыцца ня бачыў яе вачамі дасьпелага чалавека. Таму немалая праблема, прыкладам, апісаньне беларускае прыроды, народнага быту. А на гэтым будуецца сюжэт „Гараваткі". Коратка гаворачы, цяжкасьць працы над „Гараваткай" у тым, што пішацца яна за мяжой Беларусі, без кантакту з роднай прыродай і народам.

**П.:** Якія Вашыя думкі што да сяньняшняй беларускай літаратуры?

**А.:** Здаецца, што тут трэба гаварыць аб дзьвюх літаратурах або аднэй літаратуры, а другой псэўда — ці партыйнай літаратуры.

На акупаванай бацькаўшчыне творчыя сілы ці самахоць, ці з прымусу, зьяўляюцца партыйнымі рамесьнікамі ў літаратуры й выконваюць дырэктывы партыі. Гэта ўсім вядома. Дык аб праўдзівай літаратуры там няма мовы, пакуль існуе антынародны, ненавісны маскоўска-бальшавіцкі рэжым. Таленты марнуюцца. Добрыя творы ці пераклады з чужога (як нядаўна з Байрана) ня маюць доступу да народу, бо выдаюцца малым тыражом.

Даводзіцца тады гаварыць аб беларускай літаратуры, ці яе адсутнасьці, на эміграцыі. Тут мяне турбуе ня толькі тое, што наагул мала напісана, але найбольш тое, што так мала напісана ў жанры мэмуарыстыкі. Успаміны пісаць — ня трэба быць пісьменьнікам. Яны-ж (успаміны) гэта сырэц, на якім у будучыні можна апісаць і дапоўніць гісторыю дадзенага пэрыяду, будаваць мастацкія каштоўнасьці ў літаратуры. Ці-ж ня добра было-б, каб сяньня мы маглі знайсьці на паліцы якой бібліятэкі ўспаміны з часоў паўстаньня Каліноўскага ці пазьнейшыя, пісаныя Беларусам? Відаць, шматлікія з нас не ўсьведамляюць гэтай простай праўды.

Магчымасьці выданьня ў нас на эміграцыі сьціплыя. Але сёе-тое дагэтуль выйшла, значыцца сякія-такія магчымасьці ёсьць. Мне здаецца, што ў нашым грамадзтве нямала людзей, што прыйдуць з дапамогай, каб выдаць добрую й цэнную кнігу ці іншы матар'ял. Аб гэтым я пераканаўся, выдаючы „Змагарныя Дарогі".

Нядаўна пісаў мне адзін здольны да пісаньня знаёмы, што „адсутнасьць рэальных магчымасьцяў выданьня твору абяскуражвае чалавека, адбірае ахвоту да пісаньня." Іншы паэта, прыгадваючы сваю мінуўшчыну й цяпершчыну, наракае, што нашае грамадзтва мае нявырабленыя густы, каб ацаніць і падтрымліваць рост добрай паэзіі.

Гэткія падаюцца прычыны, каб апраўдаць бязьдзейнасьць. Шмат хто забывае аб асноўным, што мы маем тое, чаго бэсэсэраўскія пісьменьнікі й паэты ня маюць: свабоду тварэньня. Датаго-ж, жахлівы лёс беларускага паняволенага народу накладае на нас абавязкі. Бязьдзейнасьці гісторыя нам ніколі ня выбачыць.

# ЯНКА ЖУРБА (ІВАШЫН)

**18. 4. 1881 — 7. 1. 1964**

7-га студзеня, пасьля працяглай хваробы, памёр адзін із старэйшых нашаніўскіх паэтаў Янка Журба (Івашын). Янка Журба нарадзіўся ў вёсцы Купніна, Бошанковіцкага раёну Віцебскай акругі. Скончыў Полацкую настаўніцкую сэмінарыю, а ў 1909 г. — Глухаўскі настаўніцкі інстытут (на Ўкраіне). Працаваў як настаўнік у Беларусі, Украіне, у Сімбірскай губэрні, куды пераехаў у часе Першае Сусьветнае Вайны. На бацькаўшчыну вярнуўся ў 1921 г., працаваў у навукова-пэдагагічнай камісіі Камісарыяту Асьветы ў Менску, потым быў інспэктарам народнай асьветы ў Бабруйску і ў Клімавічах.

Першы верш Янкі Журбы „На беразе Дзьвіны" друкаваўся ў 1909 г. ў „Нашай Ніве". У 1924 г. вышаў зборнік „Заранкі". У паваенныя гады друкавалася кніга выбраных твораў (1950 г.), зборнік вершаў для дзяцей „Ластаўкі" (1950 г.) і зборнік „Сонечная раніца" (1955 г.). Апошнія гады свайго жыцьця паэта жыў у Полацку.

**Янка Журба**

## ВОГНІШЧА

**Настаўніцам і настаўнікам**

*Падкладайце, браты,*
*Сюды дроўцаў хутчэй,*
*Каб ня згас наш агонь,*
*Каб сьвяціў ён ярчэй!*

*Тым, што ў цемры жыве,*
*Каб мігцеў гэты сьвет,*
*Каб маланкай палаў,*
*Чараўны агняцьвет!*

*Каб сьвяціў сьцежку нам,*
*Каб ён вечна гарэў,*
*Хто ў бяздольлі жыве, —*
*Каб той сэрца сагрэў.*

*Хай яго адусюль*
*Браты бачаць мае:*
*Думкі вогнікам тым*
*Хай распаляць свае.*

*Дык палай ты, агонь,*
*Гэй, ярчэй ты палай;*
*Сьветлы вогнік ты наш,*
*Засьвяці на ўвесь край!*

*Не шкадуйце-ж драўцоў,*
*Мае сябры-браты:*
*Распалеце ў душах*
*Гэты вогнік сьвяты!*

*Каго люты мароз*
*Тут так моцна сказаў,*
*Каб сьвяты ваш агонь*
*Асьвячаў, аграваў...*

*Дык палай вечна, сьвет,*
*Ясным сонцам палай:*
*Хай праменьні твае*
*Палятуць на ўвесь край!*

*Дай нам моц, каб народ*
*З душой ёмкай устаў,*
*Разагрэй, разбудзі —*
*Каго сон спанаваў!*

# Клююць народную душу

Калі-б гэта чалавек ня ведаў бальшавіцкіх парадкаў, падумаць моглы-бы так: як гэта ў іх усё йдзе як па масьле; на ўсё адклікаюцца, не марудзячы робяць, з энтузіязмам ходаюцца зь вялікімі й малымі праблемамі. Ажно, прыгледзеўшыся, адразу выкалупаеш стары ўзор: „родная партыя" зьверху падрыхтуе й уплянуе, каб пасьля „з народных глыбіняў" выйшла ініцыятыва.

Гэтак і цяпер. Вунь у газэце „Літаратура і Мастацтва" за 19-га лістапада 1963 г. мы прачыталі ліст „На новы лад", напісаны „інтэлігенцыяй" зь вёскі Сіняўка Нясьвіскага раёну. У ім прапануецца тварыць новыя балшавіцкія абрады сьвятаў сямейных, народных і працы. Бачыце, гавораць гэтыя актывістыя - сіняўчане, цяперка такія сьвяты, як радзіны, вясельлі, праводзіны юнакоў у армію „адзначаюцца адным — гарэлкай". Ды й „царква ў Сіняўцы не працуе. Царкоўныя абрады вянчаньня й хрышчэньня адмерлі. Людзі зразумелі, што рэлігія — гэта пустацьвет... і яны адкінулі рэлігійныя абрады.

Народ наш, як вядома, ніколі не чакаў, каб партыйныя ці якія там іншыя цівуны акупантаў тварылі для яго абрады. Народныя традыцыі й абрады былі ўвасабленьнем духоўнага жыцьця народу. Яны выліваліся і ў песьнях, і ў танцах і ў быце, асабліва-ж у народных і сямейных урачыстасьцях. Зразумела, вера ў Бога ў гэтых абрадах займала найбольш пачэснае месца. Тут-жа, паводля гэтых акупантам насаджаных „інтэлігентаў" аказваецца, народ раптам паразумнеў, што ўзяў ды й адкінуў усё чысьценька, што нарасло за якую тысячу гадоў, ды цяпер чакае вось толькі, каб гэтыя золатцы з волі „роднай партыі" новае яму выдумалі. А яны й выдумляюць.

Мінула ўсяго тры дні, значыцца як сьлед людзі навет не зразумелі ў чым справа, як ужо ў наступным нумары „Літ. і Маст." за 22-га лістапада з „роднапартыйнае" верхавіны ўжо й шырокі водгук ды яшчэ з прапановамі й настаўленьнем. Адразу ясна, хто й каму голас падаў. Нехта А. Радзівілаў, мэтадысты рэспубліканскага дому народнай творчасьці, у канцы свайго даўгога артыкулу піша: „Сіняўчане прапануюць стварыць у рэспубліцы спэцыяльны савет, які-б заняўся вывучэньнем багатай народнай абраднасьці, стварэньнем сучасных абрадаў і рэкамэндацыяй іх лепшых узораў установам культуры. Пытаньне гэтае ўжо вырашана: у бліжэйшы час такі савет пачне працаваць. У склад яго ўвайшлі нашы паэты й пісьменьнікі, кампазытары й мастакі, дзеячы культуры, вучоныя-фальклёрысты."

Бачыце як скора! Тыя там зьнізу не пасьпелі як сьлед роту адчыніць, а тут зьверху ўжо іх пачулі і ўдарніцкім парадкам навет савет стварылі. Адразу відаць, што й ад каго выйшла. Бальшавіцкія культуртрэгеры могуць біць у свае чырвоныя абрадныя барабаны, колькі ўлезе. Мы не сумляваемся, што народ захавае сваё, здаровае, чыстае, а наноснае адкіне, так як дагэтуль заўсёды адкідаў штучнае, чужнікамі прынесенае. Могуць бальшавікі рабіць інсцэнізацыі вясельляў ці радзінаў у сваіх „народных" клюбах, могуць рабіць свае „акцябрыны". Ці людзі пусьцяць гэтую поскудзь гаспадарыць у сваіх хатах на покуці пад абразамі, гэта зусім іншая справа.

З другога боку, я спачуваю гэтай „творчай інтэлігенцыі". Ведаючы дасканала, што ў народзе нічога штучнага ня прышчэпіцца, усёроўна будуць-жа мазоліць свае й назаляць іншым мазгі, тварыць „на новы лад". Таму вось, каб гэтым „тварцом" аблегчыць працу, я тут манюся прыйсьці зь невялікай дапамогай, некаторымі парадамі. Спачатку думаў, добра памеркаваўшы, напісаць ад пачатку да канца, як узор, як рабіць прыкладам, „акцябрыны". На вялікі жаль, мусіў расстацца з такой думкай. Надта-ж з часам коратка. Але цяпер гэтых пару радаў.

Маю на думцы хрысьціны. Прапаную назваць іх „ільічыны", а не „акцябрыны", як нехта няўдала прыдумаў. Кум мае называцца ільічун, кума — ільічыха, хрэсьнік(ца) — ільічанё. Для калярыту, каб болышы калектыў быў, можна яшчэ пару функцыяў і назоваў прыдумаць, заўсёды паклікаючы на помач бязьмежную мудрасьць „роднай партыі".

Як вядома, на ільічынах найбольш папулярныя песьні.

Прапаную гэткія:

Ільічыха (зацягвае солё):
Адкуль ты ўзяўся, то не загадка:
вялікі Ленін табе бацька,
родная партыя табе матка!
Хор (усе п'яныя й іншыя):
Ай-яй-яй, Ленін татка,
Родная партыя табе матка.
Ільічыха:
На сьнеданьне будзеш хваліць рэвалюцыю,
На абед-жа чытаць інструкцыю,
На вячэру пісаць рэзалюцыю!
Хор:
Ай-яй-яй, хваліць рэвалюцыю,
На вячэру пісаць рэзалюцыю,
Роднай партыі рэзалюцыю.
Ільічыха:
Дык дрыгай ножкамі ўжо цяперака,
Каб вялікім дагнаў ты Амэрыку!
Хор:
Ай-яй-яй, дрыгай цяперака,
каб вялікім дагнаў Амэрыку.

Падаркі рэкамэндуюцца такія: калі наважылі, што будзе калгасьнік, даць яму мініятурныя вілы, калі дзяўчына мае быць сьвінаркай — карыта, даяркай — мініятурную дайніцу. Найбольш папулярным падаркам усюды й заўсёды павінна быць авоська. Патрэба ў ёй заўсёды будзе.

Гэтых вось пару скупых прыкладаў можа дапамагчы вам, „творчая інтэлігенцыя", каб бачыць, у якім кірунку йсьці, творачы абрады „на новы лад". Больш я не бяруся, за недахопам часу. Вы хоць і ведаеце, што вамі выдуманае народ з пагардаю адкіне, але-ж за тое, як паразіты, жывеце за нарабаванае ў народу дабро. Дык і выдумляйце. А мне што?

**К. Акула**

## ДА ЎВАГІ ЧЫТАЧОЎ

**Паасобнікі „Беларуса" можна купіць у Таронта ў украінскім кніжным магазыне „Арка" пры 575 Квін Стрыт Вэст між вуліцамі Спадайна й Бэтэрст.**

## ВЫСТАЎКА ВОЛЬНАЕ ПРЭСЫ

Ад 15 да 19 лістапада 1964 г. у сталіцы Заходняе Нямеччыны, Боне, была наладжаная выстаўка эміграцыйнае прэсы й пэрыядычнага друку. Выстаўку арганізавала Аб'яднаньне Вольнае Прэсы, да якога належаць журналістыя-эмігранты з паняволеных Масквою краінаў усходняе Эўропы. У Аб'яднаньне Вольнае Прэсы ўходзяць журналістыя: альбанскія, баўгарскія, беларускія, вугорскія, эстонскія, казацкія, латвійскія, лятувіскія, польскія, румынскія, расейскія, славацкія, чэскія, украінскія й югаслявянскія. Да выстаўкі далучыліся прадстаўнікі прэсы й колькі іншых народаў з тэрыторыі СССР.

Выстаўка вольнае прэсы адбывалася ў рэпрэзэнтацыйнай залі бонскае „Бэтговэн Гальле". У беларускім аддзеле было паказана каля сямідзесяці газэтаў, часапісаў, пэрыядычных выданьняў, кніжак. Выстаўка прайшла зь вялікаю ўдачаю. Наведала яе тысячы, а між імі працаўнікі міністэрстваў, дыпляматычных прадстаўніцтваў, журналістыя. Вельмі пахвальна на паказ вольнае прэсы народаў паняволеных адгукнулася прэса нямецкая.



# ВЕСТКІ з КАНАДЫ



524 St. Clarence Avenue
T O R O N T O 4, Ont.
У справах зьвязаных з матар'яламі да друку, падпіскай або рэклямай, зьвяртацца;
Mr. A. Markievich,
127 Dovercourt Rd.
Toronto 3, Ont. Tel. LEnox 1-8009
або: Mr. K. Akula,
57 Riverdale Avenue
Toronto 6, Ont.
Tel. HOward 1-3992


## КАЛЯДНЫЯ ЯЛІНКІ



**На сьвяце Ялінкі ў залі Міжнароднага Інстытуту ў Тароньце, зладжаным 12 студзеня 1964 г. супольна Парахвіяй сьв. Афрасіні Полацкай і Беларускім Нацыянальным Аб'еднаньнем. З правага боку ўдзельнікі танцавальнага гуртка.**

У парахвіі Сьв. Кірылы Тураўскага ялінка для дзетак была ладжаная зараз пасьля заканчэньня Сьв. Літургіі й Навагодняга Малебну ў нядзелю 12-га студзеня сёлета.

Дзеткі, прыбраныя адпаведна, зрабілі на сцэне інсцэнізацыю Хрыстовага Нараджэньня. Тут быў і Язэп, і Марыя, сьпяшылі й тры ўсходнія цары з дарамі на паклон, былі ангелы й пастушкі. Інсцэнізацыя, дабраньне й наладжаньне адпаведнай вопраткі — тыя што ладзілі, ведаюць, колькі гэта работы, — навучаньне дзетак, — усё гэта заслуга сп-ні Марыі Кулеш.

Дзеткі сьпявалі пасьля „калядкі", дэклямавалі вершы. Нарэшце дачакаліся-ж і дзеда Мароза (сп. Алексяевіч), што шчодра ўсіх узнагародзіў дарункамі. За сталом быў агульны пачастунак.

Трэба адцеміць, наапошку, самае найпрыямнейшае, а гэта тое, што сёлета лік ня толькі ўдзельнікаў на сцэне, але прысутных на ялінцы значна ўзрос, дзякуючы стараньням і пільнай працы Царкоўнай Управы й настаўнікаў рэлігіі: сп. Брокінга й сп-ні Марыі Кулеш.

Парахвія Сьв. Афрасіньні Полацкай ладзіла калядную ялінку для дзетак у нядзелю 12-га студзеня сёлета ў таронцкім Інтэрнацыянальным Інстытуце пры вуліцы Каліджі і Грэйс.

Праграма была добра падрыхтаваная. Сп-ва Пашкевічы й Пітушкі ня лічыліся з часам і працай, і гэта дало добрыя вынікі.

Дзеткі добра пахваліліся сваімі ўмеласьцямі:

У дзьве пары ў нацыянальнай вопратцы выканалі „Лявоніху", у тры пары — „Польку Янку". Пасьля гэтага дэклямавалі вершы, гралі на акардыёне, піяніне, сьпявалі, інсцэнізавалі кароткі калядны скэч. Вядома, што галоўным госьцем быў дзед Мароз (сп. Сладкоўскі), які здабыўся на арыгінальнасьць, бо так прыбраўся, што быў падобны на нашага беларускага дзеда Мароза, а не канадыйскага Санту. За вынаходлівасьць усе яму былі вельмі ўдзячнымі. Гэты вось беларускі дзед Мароз абдарыў падаркамі ўсіх прысутных дзетак. Наапошку быў агульны пачастунак для бацькоў і дзетак.

**М. К-р.**

### КАЛЯДОЎШЧЫКІ

Як прыемна, калі седзячы за багата застаўленым калядным сталом, пачуеце стук у дзьверы, а адчыніўшы іх, такое пытаньне: — Можна з калядкамі да вас у хату?

— Можна, але-ж. Каторы гэта гаспадар на чужыне адмовіцца ўпусьціць такіх людзей. — Хадзеце, сьпявайце, слаўце Нованароджанага Ісуса. Гэта-ж Вы ў хату сьветлую радасьць прынесьлі.

І пачынаюць пасьля ў хаце ліцца родныя калядныя мэлёдыі. Пасьля — пажаданьні здароўя, пачастунак, віншаваньні.

Гэткія сцэны паўтараліся сёлета ў Тароньце й ваколіцах у дзясятках беларускіх хатаў, у каталікоў і праваслаўных.

Калядоўшчыкі былі: М. Ганько, К. Акула, М. Кулеш і Б. Кірка. Езьдзілі й развозілі людзям радасьць ад раньняга паабедзьдзя да познай ночы на каталіцкія Каляды, тое-ж самае й на праваслаўныя. Удзячныя людзі ахвяравалі на рукі калядоўшчыкаў 170 дал. на царкву Сьв. Кірылы Тураўскага.

## ПЫТАЙЦЕ АБ КАНАДЗЕ

„Беларус" будзе вельмі рады адказваць на Вашыя запытаньні аб Канадзе, калі пытаньні гэтыя будуць мець цікавасьць і для іншых чытачоў. Адказы на запыты будзе даваць інфармацыйная служба. Гэтта падаем адзін адказ гэтае службы.

**Пытаньне:** Колькі Беларусаў жыве ў Тароньце й чаму іх няма ў статыстыцы?

**Адказ:** Бяручы на ўвагу мінулае гэтае этнічнае групы Вы напэўна прызнаеце, што вельмі цяжка ўстанавіць дакладны іх лік. Беларусы пачалі эміграваць у Канаду паўсотні год таму, але былі клясыфікаваныя як Расейцы ці „Белыя Расейцы", г. зн. іх залічалі да тых эмігрантаў, што прыбывалі з былой царскай Расеі па І-ай Сусьветнай Вайне. І цяпер, калі шмат Беларусаў жыве паза межамі Беларускае ССР, на тэрыторыях сумежных краёў, як РСФСР, Польшчы, Украінскай, Лятувіскай і Лацьвійскай ССР, шмат хто зь іх занесены паводля свае былое дзяржаўнае прыналежнасьці, прыкладам, Палякамі. Дык цяпер ніхто ня ў стане падаць дакладна цяперашні лік Беларусаў у Тароньце. Мы дапушчаем, што іх прыблізна ёсьць дзьве-тры тысячы. У Тароньце ёсьць і шмат меншых этнічных групаў з розных эўрапейскіх краёў. Бюро Статыстыкі падае іх лік пад агульнай рубрыкай: „Іншыя эўрапейцы".

### ТЭАТР ШУКАЕ АРТЫСТЫХ

Тэатр Новаканадыйцаў, які складаецца з групы былых эўрапейскіх артыстых, што летась у сакавіку ў Крэст Тэатры ў Тароньце паставілі п'есу „Ай Рэмэмбэр Мама", пачаў падрыхтову да новага сэзону. У пляне прыгатова двох інсцэнізацыяў фінскага й данскага аўтараў — Міка Вальтары („Эгіпцянін", паводля якога Галівуд найграў ведамы фільм) і Карля Шлютэра. Гэта мадэрныя псыхалягічныя драмы. Распачатая кампанія рэкрутацыі большага ліку артыстых, паколькі, як зазначыў прадуцэнт-дырэктар, існуе намер пашырыць рэпэртуар тэатру. „Сярод нас шмат таленавітых людзей, і я буду вельмі рады заняцца імі, калі толькі яны гэтага хочуць". Беларусы, хто хоча браць удзел у студыях драмы, хай зьвяртаюцца на адрыс: Мр. Р. Андрэ, 45 Доніно Авэ., Торонто 12, або тэлефанічна: 485-7823.

### НАВАГОДНІ БАЛЬ

Таронцкі аддзел ЗБК ладзіў сустрэчу Новага 1964 году адмысловым балем 31-га сьнежня. Музыка іграла дасканала, пітва й закусак ставала ўдоваль, настрой быў на адпаведным узроўні. Яшчэ перад поўначай была разыграная лятарэя. Шчасьлівыя сталі собсьнікамі радыя на 6 транзыстараў, бутэлькі „скачу" й пачкі пралінаў. Даход прызначаны на газэту „Беларус". Падчас балю ахвярна папрацавалі сп-ва Ганькі, Б. Я., К. Акула, М. Целеш і ягоны сын, а сп-ня Н. Чорная шмат дапамагла ў распрадажы білетаў лятарэі.

### АДКРЫЦЬЦЁ ЦЭНТРУ ІНШАМОЎНЫХ ЛІТАРАТУРАЎ

У Тароньце закончаная пабудова Цэнтру Іншамоўных Літаратураў (рог вуліцы Квін Вэст і Ковэн Аве.), куды Цэнтр і пераносіцца з Публічнай Бібліятэкі пры вуліцы Лісгар і Квін В. У пятніцу 28-га лютага а 4-ай гадз. папаўдні будзе ўрачыстае адкрыцьцё новага Цэнтру пры ўдзеле шматлікіх гасьцей. Падчас адкрыцьця адбудзецца фэстываль мастацкай самадзейнасьці розных этнічных групаў, да ўдзелу ў якім запрошаныя й Беларусы. Фэстываль будзе паўтораны ў два наступныя дні.

### З ПОСЬПЕХАМ У ВУЧОБЕ

Беларуская калёнія Таронта й ваколіцаў мае вялікае здаваленьне з таго, што спасярод яе малодшага пакаленьня шмат хто адзначыўся добрымі посьпехамі ў вучобе ў сярэдняй школе і ў вышэйшай. Для прыкладу, сп. Валянцін Слаўко ўжо 3-ці год наведвае Раерсонскі Палітэхнічны Інстытут, а сп. Уладзімер Барановіч на студыях тэхнічнай інжынерыі пры Таронцкім Унівэрсытэце. Сп-ня Валя Руднікевіч скончыла з удачаю настаўніцкі каледж і працуе настаўніцай. 25-га студзеня сёлета яна выйшла замуж за інж. Клімовіча. Вітаем!

## У КОЛЬКІХ СЛОВАХ...

..На адрыс Г. У. ЗБК, ці яе сяброў, надыйшла вялікая колькасьць Калядных і Навагодніх прывітаньняў ад шматлікіх урадавых дзейнікаў, у тым ліку ад Прэм'ера Канады Лестэра Б. Пірсана й лідэра апазыцыі Джана Дыфэнбэйкера.

...Леташні ўраджай пшаніцы ў Канадзе быў звыш 650 міліёнаў бушляў.

...Нацыянальная Біржа Працы дае ўсім беспрацоўным магчымасьць індустрыяльна-тэхнічнага перашкаленьня праз адпаведныя курсы пры адначасным выплачваньні дапамогі па беспрацоўі.

... Джаклін Кеннэды, удава па прэзыдэньце ЗША, атрымала 800,000 спачувальных лістоў і тэлеграмаў з усіх канцоў сьвету, якія будуць захоўвацца ў Кеннэды Ляйбрары ў Бастоне, ЗША. У гэтым ліку ёсьць лісты й тэлеграмы й ад Беларусаў Канады, ЗША ды іншых краёў.

...Прэм'ер Канады Лестэр Б. Пірсан 14-19 студзеня адбыў дзяржаўную візыту ў Францыі з мэтаю цясьнейшага супрацоўніцтва абедзьвюх краін.

...Новая сэсія Фэдэральнага Парлямэнту пачнецца 18-га лютага, а ў Урадзе маюць гэтымі днямі адбыцца важныя зьмены на становішчах міністраў.

...Міністар абароны Пол Гэльлер падаў да ведама, што шляхам рэарганізацыі абаронных мерапрыемстваў Канада заашчадзіць 74 міліёны даляраў. Ён таксама абвесьціў, што ад новага году Канада ўпяршыню атрымае атамовыя ладункі для ракетаў і іншых гатункаў зброі.

...Каралеўская Камісія для Двумоўя й Двукультур'я прадоўжыла тэрмін прыйманьня лістоўных парадаў і прапановаў ад арганізацыяў і прыватных асобаў да пачатку чэрвеня сялетняга году.

...Таронцкая падземка з усходу на захад (Сабвэй) будзе закончаная ў 1967 г., гэта значыць на паўгода раней пляну. На 12 лініяў магістраля № 401 (ад Маркгам Род да магістралі № 27 на поўнач ад Таронта) будзе скончаная, як і прадугледжана, у 1968 г.

...Рухомы пэнсыйны плян Канады ўвойдзе ў сілу на пачатку 1965 г. а з г. зв. Мэдыкер (мэдыцынскае забясьпечаньне) справа зацягнецца на год пазьней, аб чым яшчэ йдуць спрэчкі між Правінцыямі й Фэдэральным Урадам.

...Амэрыканская аўтамабільная кампанія Студэбэйкер выказала свой намер прадукаваць аўты толькі ў Канадзе — ў Гамільтоне. Ад мінулага году Швэды прадукуюць каля Галіфаксу свае „Волво", а 2 францускія фірмы (Рэно й Пэжо) хочуць будаваць свае аўтазаводы ў правінцыі Квэбэк.

...У лютым у Атаве адбудзецца канвэнцыя Прагрэсыўна-Кансэрватыўнай Партыі, і ходзяць чуткі, што Дж. Дыфэнбэйкер можа згубіць лідэрства.

...Фэдэральны міністар аховы здароўя й дабрабыту Джуды Ля Марш вызначыла вялікую суму грошаў на вытлумачальную акцыю змаганьня з курэньнем, якое, як даведзена, выклікае хваробу рака лёгкіх і розныя іншыя нядугі. Але на аўкцыёне тытуню ў Дэльгай, Ант., вырашчальнікі тытуню збывалі яго па вышэйшых цэнах, як летась.

...Ад леташняга году Таронта атрымала другі ўнівэрсытэт — Юнівэрсіты оф Ёрк.

...Заявы (аплікацыі) на грамадзянства можна падаваць па 4-ох гадох і 9-ці месяцах пабыту ў Канадзе.

...Каралева Альжбета II наведае Канаду сёлета ў кастрычніку.

**М. Козыр**

## ЗАПІСКІ ЯЎХІМА КРАЙНЯГА

### III

Каб не грашыць Богу, кажу адразу, рыбак зь мяне ніякаваты. Гэта ня значыць, каб ня ведаў, з каторага канца за вуду трымацца, ці што. Але на рыбу час трэба. Прызнаюся, што маю ўсе асновы рыбаком стацца: умею адрозьніць шчупака ад карася, акуня ад плоткі. Болей таго — вокам ня міргнуўшы, калі захачу, магу выхваляцца й хлусіць, як рыбак.

Тутака ў Канадзе, пакуль кум Яўтух мяне не папароў і ў людзі не паказаў, ня меў часу пра рыбу й думаць. Прыклыпаў ён да мяне на сваёй дрыньдзе неяк пасьля Вадохрышча й кажа гэтак: — Зьбірайся, кумішча, едзем на рыбу.

Зіма. Усюды завеяла, не праедзеш. Рэкі й вазёры лёдам скаваны, а куму — рыба ў галаве. Думаў я, што жартуе, дык і кажу: — Ты што, зь мяне старэйшага насьміхацца ўздумаў? Якая табе зімой рыба?

— А з-пад лёду то што, ня рыба? Прасячэш палонку, сядзеш і будзеш цягаць, пасьвістываючы. Лепш як улетку. Проста так і пнецца на прынаду!

Угаварыў мяне. Бабу зь дзяцьмі пакінуў дома. Кажу ёй, што разлгеджуся, што, дзе й як, і калі ўсё на лад, дык другі раз цэлай сям'ёй паедзем.

— Завязу цябе да такога чалавека! — усьміхаецца й паказвае уверх мізінцам Яўтух, калі мы селі ўжо ехаць. — Рыбак зь яго першай маркі, навет хату на лёдзе мае.

— Як гэта так?

— Ну, такую малую хатку, што ў ёй на канапе ляжыць, люльку пакурвае, газэту чытае й рыбу з возера цягае. Га-га-га! Ня верыш?

— Каб ты спарахнеў! Няўжо-ж праўда? — кажу. — А хто ён сам такі, гэты рыбак?

— Свой Беларус, ды яшчэ й заслужаны. Кірпач завецца. Цяпер ён нічагусенькі ня робіць, каб табе палец аб палец... Кажа, што ён ужо на пэнсіі ад грамадзкай працы.

— Часу ў яго мусіць на рыбу хапае?

— Хоць ты яму скараці. Жонка сястрой у шпіталі, а ён ля дому, дзяцей няма. Дык і чаму-ж не выдумляць?

Ехалі мы побач вялікага возера, куды большага, чым наша Нарач. На лёдзе, як вокам сягнуць, чарнеў лес рыбацкіх будак. Калі ўехалі ў мястэчка Ваву, дзе жыў той Кірпач, дык захрасьлі на вуліцы ў хвасьце аўтаў і каб табе зь месца. Зьехалі крыху набок і наважылі пайсьці паглядзець, што нас затрымала. Падыйшлі якога паўкілямэтра, ня больш, ажно глядзім: на сярэдзіне дарогі стаіць рыбацкая хатка, а ля яе людзі мітусяцца.

— Дык гэта й будзе Кірпачова! — крыкнуў зьдзіўлены кум. Як выявілася, Кірпач цягнуў яе на лёд, няўдала прыладзіўшы на падсанках. Яна зьляцела на асфальт і спараліжавала ўвесь рух.

Тут і паліцыянт стаіць ды падганяе, і кучка людзей стогне-пяліцца з усіх сіл, каб сапхнуць яе набок. Ніштаватая й цяжкая хаціна, пабудаваная на роскаш. Падыйшлі мы бліжэй. — А во дзе ён сам, — паказаў мне пальцам кум. Гляджу: малы сівенькі чалавечак таропіцца й скача ля той хаціны, як смаргонскі мядзьведзь на гарачай пліце. Пабачыўшы Яўтуха, твар яго распраменіўся. — Братка, Максім! — крычыць ён, — хадзі памажы, бо не дадзём радачкі.

Узяліся мы памагаць. Яшчэ пяць хвілін страху, сапхнулі будку набок, каб даць людзям праезд. Заладавалі на падсанкі, асьцярожна прывязалі да аўта й гайда яе на лёд. Там, як піць даць, за якую гадзіну ад той суматохі на дарозе Кірпачова хата красавалася ледзь не пасярод возера.

Тут ужо рыбак хваліўся сваім майстэрствам. Перш на лёд паклаў чатыры прадаўгаватыя, роўна ачэсаныя драўляныя палены. Тады на іх палажыў упоперак колькі дошчак, заслаў драцянай сеткай, а зьверху ліналеумам і малым дываном. Гэтак паўстала падлога. У вадным куце пакінуў чысты лёд для палонкі. Тры ваконцы добра асьвятлялі нутро будкі. Збоку ля сьцяны расьцягнуў складаную пасьцелю, паставіў малы столік, наладзіў і запаліў бэнзынную печку, каб цёпла было. Па Кірпачовых падрыхтовах відаць было, што ўсё рабіў з практыкай. Гэта яму не пяршыня.

Тады маленькай сякеркай павольна й мэтадычна ўзяўся прасякаць лёд. Каб вы толькі паглядзелі на яго! Гэта проста ўцеха, зь якой адданасьцю й спрытам сек ён лёд. Калі дабраўся да вады, вычысьціў дробны лёд, папароў доўгім кіем уніз і ля берагоў, каб упэўніцца, што ўсё было так, як трэба. Закурыў люльку, выгадна ўсеўся й пачаў кідаць пад лёд прынаду.

— Гэта вы чаму так?—пытаемся.

— Трэба-ж рыбу абласаваць. От яна да маей палонкі прывыкне, а я заўтра яе на кручок. Самі паглядзіцё.

— Дык мы-ж заўтра тут ня будзем.

— Навет і ня думайце ўцякаць.




**Гэтая новая форма аплікацыі на права кіраваньня аўтам рассылаецца паводля новай сыстэмы — у парадку датаў нараджэньня. Пасьля іх апрабаты будуць выдаваца дазволы на права кіраваньня аўтам (драйвэрс ляйцэнс) на тры гады. Аднаўляць іх будуць заўсёды ў дзень нараджэньня. Аплата за ляйцэнс застаецца тая самая — 2 даляры на год.**





Пераначуеце, заўтра рыбы паловіце, а тады паедзеце.

Таму, што гэта была сыбота, дык мы ня ўпіраліся. Кірпачыха аказалася асобай вельмі рухавай, жыцьцярадаснай і гасьціннай. Дарыла нас вялікай увагай. Былі й іншыя госьці — Украінцы Маныўськія з Братфарду. Гэта былі Кірпачовы сябры па сабачых справах, і таму цэлы вечар гаманілі пра сабак.

Спадар Кірпач меў вялікага ваўчара, а пан Маныўські такога самага. Спаткаліся й зьнюхаліся некалі гэтыя сабакі на дарозе, а пасьля пазналіся й гаспадары. Кірпач назваў свайго Гіль (Гіл), каб пабеларуску й паканадыйску пасавала. Калі Кірпачу захацелася паказацца ў людзі, а Гілю ў сабакі, дык абое выбіраліся да пана Маныўськага; іншым-жа разам — тыя да іх. Дзьве сям'і былі бязьдзетныя. Дабраліся, што й гаварыць.

У гэны вечар абмяркоўвалі сабачыя харчы, дыеты, колькі разоў шампом сваіх гадунцоў мыць на тыдзень, калі й якія ўколы даваць, як часта да вэтэрынара вадзіць, на якой пасьцельцы класьці спаць. Бедавалі, што навокал сучак няма. Не забыліся пра норавы й капрызы Гіля й гадунца Маныўськага — Боба. Ніколі ў жыцьці сваім ня чуў я такой займальнай і павучальнай гамонкі пра сабак. Перада мной адкрыўся цікавы й каляровы сьвет. Спачатку было цікава, пасьля зяваць, а пад канец пляваць хацелася. Рэшту даказаў мне назаўтра кум Яўтух, калі ехалі дадому.

— Каб ты ведаў, кумішча, што за камэдыя! Задумаў Кірпач зь Кірпачыхай із свайго ваўка Беларуса зрабіць. От павёў, значыцца, Кірпач Гіля ў сабачую акадэмію. Гэта такая школа, дзе сабак муштруюць на розныя штукі. І кажа тады ён цэламу прэзідэнту гэтай акадэміі: тя глядзі, каб мой сабака Беларусам, а не Канадыйцам быў. Той кажа: ес, сэр! Чаму-ж не, за грошы.

— Як будзеш вучыць яго скакаць, дык крычы — гоп! — разумееш?

А той кажа: I hope, I hope.

Скончылася тым, што Кірпачовага Гіля падвучылі, але зьбеларушчыць так і не змаглі. Прышлося самому гаспадару язык крывіць, каб із сабакам паразумецца. Так і выдурняецца вось. То із сабакам, то із рыбай. Каб трохі, дык чорт з табой, ато цэлы час, — закончыў кум.

Як усталі мы назаўтра, Кірпач ужо быў на возеры. Пасьля сьнеданьня пасьпяшылі туды й мы. У рыбаковай хатцы перад намі паказалася такое: ляжыць сабе на пасьцелі, пакурвае люльку, Кірпач. Збоку куча рыбы ў корабе, на століку жыўчыкі ў слоіку хадыром ходзяць, а ён толькі закідае кручкі пад лёд і цягае. Мы пабылі нядоўга. Ужо едучы дадому, думаў я аб тым, што бачыў. Кум мой быў нейкі маўклівы, як усядно злосны.

— Чаго ты надуўся, як індык? — пытаюся.

— Знаеш, кумішча, чаго вазіў цябе да Кірпача?

— Рыбы палавіць, пазнаёміцца зь людзьмі....

— Гэта ня ўсё, братка. От хацеў, каб ты пабачыў, што чалавек вырабляе з дуру. Я калі пагляджу на ўсё гэта, дык такі злосны, што трахнуў-бы... Іншыя вунь пры грамадзкай ці іншай працы для народу душацца, на хлеб мусяць зарабляць, дзетак даглядаць, а гэты во сабак па акадэміях адукуе, патрыётаў беларускіх зь іх робіць, рыбкі цягае. Чую, што й за паляўніцтва апошнім часам меціцца. Гэта во каб хоць палову энэргіі, што ўкладае ў гэтыя дурноты, ды аддаў на нацыянальную працу, дык глянь якая вялікая падпора была-б... А ці-ж у нас гэта толькі адзін такі, як ён!

Яўтух змоўк. Я бачыў, што кіпеў ад злосьці, дык збыў яго маўчаньнем. Ды й што мне казаць? Мне раней казалі, што калісьці Кірпач нямала працаваў для народу. Ня ведаю, ці гэта праўда.

Мая-ж хата да надаўнага часу таксама была з краю. Хацеў, відаць, кум Яўтух і мяне падвучыць. Калі так, то наглядная лекцыя яму вельмі ўдалася.

# Сёе–тое

„Зьвязда" за 20-га лістапада летась дае справаздачу г. зв. „народных дазорных", значыцца бальшавіцкіх цівуноў, што езьдзілі па розных раёнах Бэсэсэрыі й наглядалі, ці ўчадзеў народ камуністычным дурманом, ці працуюць задавальняюча па вёсках агітбрыгады, ці падрыхтаваны да працы на зіму будынкі клюбаў.

Значэнна гавораць вось такія загалоўкі справаздачаў: „Дом творчасьці бяз творчасьці", „Чакаюць, пакуль хто дапаможа", „Як селі так і прыкіпелі". Матар'ялы дапаўняюцца рысункамі-карыкатурамі.

Вы здагадаліся, чытач: справы ў Бэсэсэрыі з камуністычным узгадаваньнем ня толькі што ніякаватыя, а прост-напраст сам Маркс ведае, на што падобныя. Дзіва што! Адабралі ад працоўнага народу волю й радасьць жыцьця, ды з гэтай трухлявай прапагандай такжа-ж ужо залезьлі за скуру, так дасалілі, так абрыдзелі, так бяруць за жывое, што далей няма куды. І ўсёроўна не перастаюць.

З будынкамі справа яшчэ горш. Тая-ж „Зьвязда" паведамляе: „Ва ўсей Берасьцейскай вобласьці з наяўных 950 клюбаў і бібліятэк пашпарты на права работы ў зімовых умовах атрымалі толькі 411".

От і жыві! Дзе-ж ты народу будзеш тлумачыць, што яго чакае сьветлае камуністычнае заўтра?

***

Бэсэсэраўскіх літаратараў точыць чарвячок ды й то не адзін. Ім хочацца напісаць праўду пра калгасную вёску. Адылі ўпоперак дарогі лягла цэлая гара папераў з „роднапартыйнымі' дырэктывамі, уключна із дакладамі й наказамі аб курсе ў савецкай творчасьці самых, прабачце за выражэньне, найбольшых тварцоў — Хрушчова й Ільічова.

Усім ужо сяньня ведама, што асноўнымі тэмамі г. зв. соцрэалістычнай літаратуры зьяўляюцца наступныя: сучаснасьць, праца, сучасны чалавек, адданы будаўнік камуністычнага заўтра, сучасная калгасная вёска, вялікая хімія й іншае, у розных варыянтах, „сучаснае". Гэткімі вось пялёнкамі спавіваюць „будучага чалавека", рэгулярна іх мыюць і праветрываюць. Нянек-жа ля гэтага „камуністычнага чалавека будучыні" такая процьма, што хоць ты іх памялом гані.

А прадукт з гэтага выходзіць проста нікудышні. Чалавек ня хоча расьці паводля марксаўска-ільічоўскіх рэцэптаў, хоць ты яму асінавы кол на галаве чашы. Літаратары прыходзяць у тупік, бо ня могуць напісаць пра шматлікія „чаму", хоць, няма сумлеву, добра ведаюць пра гэта.

Анатоль Вярцінскі ў сваім артыкуле „Чатырыста чаму" („Літ. і Маст." 20. XII. 1963 г.) памагае бэсэсэраўскім пісьменьнікам і паэтам, як кашаль хваробе, калупае старую й загноеную рану.

У прыватнасьці дакарае ён драматурга Макаёнка за ягоную „Лявоніху на арбіце". Паводля Вярцінскага, камэдыя гэтая — „сур'ёзны пралік драматурга", бо... „ня зусім правільна адлюстраваў сяньняшні дзень нашай вёскі, у прыватнасьці тыя прычыны, якія тармозяць і ўскладняюць яе далейшы ўздым." І Вярцінскі тлумачыць гэта Макаёнкавай „недастатковай увагай да сапраўдных праблем вёскі шасьцідзясятых гадоў."

Але шыла зь мяшка запраўды вылазіць, калі Вярцінскі гаворыць пра паэму Алега Лойкі „Хаты пад чарапіцаю":... „у ёй зноў-такі немалое месца адводзіцца чарапіцы і цэмэнту"... „Алеж, напэўна, мала захапляцца стрэхамі, чарапічныя яны ці шыферныя, трэба-ж яшчэ цікавіцца тым, што робіцца пад гэтымі стрэхамі, якія „чаму" хвалююць сяньня вёску — напрыклад: **„моладзь чаму ад зямелькі ўцякае?"** (падчыркнута мною, — М. К-р). А вось пытаньне гэтае. зь якім зьвяртаецца да паэты „кладаўшчык дзядзька Міша", так і застаецца, па сутнасьці, без адказу. Аўтар не зацікавіўся ім усур'ёз, не паспрабаваў выказаць сваіх адносінаў да яго."

Вярцінскі-ж ня можа сказаць, што аўтар цікавіўся, але ня можа, дзякуючы „роднапартыйным" наказам, выказаць сваіх запраўдных дачыненьняў да прыгоннай-калгаснай вёскі, чаму моладзь ад прыгону на лягчэйшы хлеб уцякае.

Ніл Гілевіч у артыкуле „Скарыстаем добрыя звычаі („Літ. і Маст." 29. XI. 63 г.) жаліцца: „Мы яшчэ мала робім для таго, каб моладзь адносілася да працы на зямлі зь пяшчотай і спагадай, як належыць гаспадару, а не пératваралася ў бяздумнага й бястурботнага нядбайцу. І хто ведае, у што нам гэта абыходзіцца. Можа быць і ў гэтым ёсьць пэўная доля прычыны, чаму ў нас часам назіраюцца такія, скажам, як ёсьць — напляваўцельскія адносіны да хлеба".

Праўду кажучы, цяжка адгадваць, ці ў Вярцінскага, Гілевіча або іншых, што закранаюць пытаньні, якія належаць да „табу" ў савецкай літаратуры, больш наіўнасьці ці сумленьня. Добра яны ведаюць, што зь іхнай крытыкі пшык будзе. Літаратары заўтра не пачнуць пісаць праўды, пакуль існуе калгасная, літаратурная й іншая прыгоншчына. Людзі вось жаляцца, пэўна, што пісьменьнікі дрэнна пішуць, не адлюстроўваюць праўды, ну дык трэба-ж нешта сказаць. А як сказаць, дык трэба-ж некага вінаваціць. Вядома-ж, што самога Мікіту вінаваціць ня будзеш. Так яно й круціцца ў „роднапартыйным" адурманеным коле...

**Міхась Козыр**





# МАСАВАЕ ВЫБІВАНЬЕ СЬВІНЕЙ У СССР

Весткі пра катастрофу харчавое прадукцыі ў СССР папаўняюцца апошнім часам афіцыйнымі савецкімі дадзенымі пра масавае выбіваньне жывёлы, асабліва сьвіней. Паводля апублікаваных Галоўнаю Статыстычнаю Управаю СССР лікаў, з 69.9 міліёнаў сьвіней на 1. 1. 1963 пры канцы таго году ў Савецкім Саюзе засталося ўсяго 40,7 міліёнаў. Асабліва вялікі спад ліку сьвіней у калгасах і саўгасах, у якіх з 53.8 міл. на пачатку году пры канцы году было усяго 27.6 міліёнаў, ці спад вышыні блізу 50%. Меншы спад ліку сьвіней прыватнае гадоўлі: з 16.1 міліёнаў на пачатку году пры канцы было 13.1.

Спаў адначасна й лік хатняе жывёлы з 86.9 міліёнаў напачатку 1963 году да 85.3 міліёнаў пры канцы. Паводля савецкае прэсы лік сьвіней апаў гэтак раптоўна дзеля таго, што шмат іх выгінула ў цяжкую леташнюю зіму, а з другога боку таму, што масава іх выбіваюць дзеля вялікае нястачы корму. Пасколькі да новага ўраджаю яшчэ далёка й нямаведама які будзе ён нагул, масавае нішчэньне жывёлы ў СССР будзе напэўна адбывацца й далей, што лёгка можа давесьці да таго, што ў калгасах і саўгасах да канца сялетняга году можа застацца ўсяго 30% леташняга стану.

У выніку масавага выбіваньня сьвіней і жывёлы часова ў СССР павялічылася колькасьць мяса ў продажы, за якім нямінуча прыйдзе востры спад і недахоп. Ужо паважна спала прадукцыя малака, масла, яёк, што пры адначасным недахопе хлеба наводзіць савецкага спажыўца на думку аб магчымым веснавым голадзе.

### КАСМАНАЎТКА ЦЕРАШКОВА

З артыкулу карэспандэнта менскае „Зьвязды" Я. Кучара ў нумары зь 1-га сьнежня 1963 г., „На радзіме маці „Чайкі", бліжэй высвятляецца беларускае паходжаньне першае жанчыны касманаўткі Валянтыны Церашковай. Маці яе Алена паходзіць з роду Кругловых, тубыльчых жыхароў вёскі Верамееўшчына, цяпер Аршанскага раёну, Віцебскай акругі. Там і нарадзілася Алёна, хадзіла ў школу. Потым ейны бацька, а Валянтынін дзед Хведар, пераехаў з усей сям'ёй у Яраслаўшчыну.

Пра паходжаньне бацькі Валянтыны не гаворыцца нічога. У Верамееўшчыне ўспамінаюцца прозьвішчы — Пазьняковы, Міронавы, Бабковы, Куранковы, Краўцовы, — дык найхутчэй і Церашковы, ці можа й Цярэшкі, паходзяць з гэтае-ж вёскі. Пра бацьку Валянтыны ўспамінаецца толькі тое, што ён „загінуў на фроньце ў барацьбе зь нямецкімі захопнікамі", а маці яе ў веку 27 год засталася ўдавою з трыма малымі дзяцьмі.

На пачатку артыкулу ўспамінаецца й прозьвішча Валерыя Быкоўскага, найхутчэй таксама Беларуса, але пра ягонае паходжаньне Я. Кучар не напісаў нічога.

